НАША СВАБОДА

№44(131) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

27 КРАСАВІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# «Канчатковы дыягназ» галоўнаму пацыенту

*Безумоўна, акцыя, арганізаваная напрыканцы мінулага тыдня нефармальным студэнцкім рухам супраціву «Зубр», стала самай арыгінальнай за апошнія некалькі гадоў дзеяй, створанай праціўнікамі рэжыму А.Лукашэнкі. Параўнаць з «Канчатковым дыягназам» можна бадай толькі перформанс Алеся Пушкіна 21 ліпеня 1999 года, але там не было такой маштабнасці.*



Прыкладна ў 18.00 пры галоўным уваходзе ў парку імя Горкага сабралася каля дзвюх тысяч чалавек. Маладыя людзі, якія да гэтага паводзілі сябе ніякава, пачалі актыўна раздаваць прысутным разнастайную прадукцыю: газету «Зубр», відэакасеты, значкі «Мне вядома, хто самы галоўны дурань у краіне», спецвыпуск газеты НАША СВАБОДА, прысвечаны стану псіхічнага здароўя А.Лукашэнкі, наклейкі-стыкерсы. Праз пяць хвілінаў па тэрыторыі парку пачалі разварочвацца перформансы. Студэнты апраналі маскі з выявай лысага, вусатага чалавека і белыя халаты. Пачалі разварочвацца конкурсы: «Крык-4» (на лепшы крык, які робяць уначы дыктатары), «Дыягностыка» (чарга вусатых людзей стаяла да доктаркі з мэтай праверкі свайго псіхічнага здароўя), настольны хакей (людзі ў масках з азартам спрабавалі выйграць адзін у аднаго, за што атрымоўвалі прызы). Пры гэтым усе «героі» з вусамі размаўлялі толькі вядомымі фразамі з набору ўладнай асобы кшталту «гдзе нармальныя чалавечаскія яйца» ці «я не люблю Амерыку». Людзей абсалютна бясплатна фатаграфавалі на фоне скручанага ў супакойную кашулю мазаічнага псіхапата з вусамі, які час ад часу спрабаваў вырвацца і кульгаючы збегчы, але здаравенны санітар вяртаў яго на месца, і той у скрусе ад няўдалага ўцёку завываў старую песню «Чорны воран».

Затым з'явіліся лыжнікі, якія з лямантам прабеглі праз увесь паркавы пляц і рынуліся... у ваду Свіслачы. Перайшоўшы рэчку, яны дабраліся да іншага берага, дзе іх ужо чакалі людзі ў штацкім.

А між тым без аніякай прычыны пачаліся затрыманні. Спачатку доктарку, якая ставіла дыягназ вусатым людзям, падхапілі пад рукі міліцыянты ды пацягнулі ў аўтобус. Па шляху туды Ірына (так звалі доктарку) пастуквала міліцыянтаў па кумпалу гумавым малаточкам і запэўнівала іх, што «Доктар Зубр» іх таксама вылечыць. За ёй пацягнулі некалькі «вусатых», якія крычалі «куда вы міне ташчыце, мой срок ішчо не кончылся». Тут на замену затрыманым на пляц выйшлі хакеісты з дзіцячымі клюшкамі і пачалі апантана ганяць шайбу з вытарашчанымі вачыма і «целепузікі» з вусамі, якія неслі ўсялякую нязвязную лухту і махалі зялёна-чырвонымі сцяжкамі, якія былі перавернутыя дагары нагамі.

*Заканчэнне на стар.7*

# 15 гадоў Чарнобыльскай катастрофы

*26 красавіка 1986 года на 4-ым энергетычным блоку Чарнобыльскай АЭС у выніку серыі цеплавых выбухаў быў разбураны рэактар. Вялікая колькасць радыеактыўных рэчываў трапіла ў навакольнае асяроддзе. Паводле разлікаў адмыслоўцаў, сумарны выхад радыеактыўных матэрыялаў склаў 50 мільёнаў кюры, што эквівалентнае наступствам выбухаў 500 атамных бомбаў, кінутых у 1945 годзе на Хірасіму.*

Ад моманту аварыі больш за 30.000 чалавек памерла ад хваробаў, звязаных з радыяцыйным забруджваннем. ААН распаўсюдзіла звесткі, згодна з якімі наступствы катастрофы на Чарнобыльскай АЭС дагэтуль адчуваюць каля 7 мільёнаў жыхароў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Амерыканскія навукоўцы падлічылі, што агульная колькасць ахвяраў Чарнобыля ў чарзе пакаленняў складзе 500.000.000 чалавек. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Маскве вядомы расійскі эколаг, акадэмік Аляксей Яблакаў. Ён нагадаў, што сёння на ліквідацыю наступстваў аварыі на ЧАЭС ідзе 20% беларускага і 10% украінскага бюджэту. Агульныя выдаткі на мінімізацыю наступстваў аварыі склалі па стане на 2000 год 300-360 мільярдаў доляраў, а да 2015 года ўзрастуць да 560 мільярдаў доляраў. Па словах акадэміка, «такім чынам, выдаткі шматразова перавысяць увесь магчымы прыбытак ад атамнай энергетыкі».

Нагадаем, што 15 снежня 2000 года прэзідэнт Украіны Леанід Кучма афіцыйна зачыніў ЧАЭС. Быў адключаны апошні, трэці энергаблок станцыі. Аднак радыеактыўнае паліва, якое і прадстаўляе непасрэдную пагрозу для ўсяго жывога на сотні кіламетраў навокал, засталося ў гэтым блоку. Яго можна будзе выняць адтуль не раней за 2008 год.

Саркафаг, тэрмінова ўзведзены над выбухнуўшым чацвёртым энергаблокам, за гэтыя пятнаццаць гадоў ператварыўся ледзьве не ў сіта. У 1986 годзе стаўка рабілася на хуткасць, таму, як прыгадваюць адмыслоўцы, з 18 канструктыўных рашэнняў і двух варыянтаў абароннага збудавання – купала з комплексам вымяральных, вентылюючых, ахалоджваючых і пылапрыгнятаючых прыстасаванняў – быў абраны той, які мусіў даць больш хуткі вынік.

*Заканчэнне на стар.3*

# Охотники за шпионами входят во вкус

*Так оппозиционеры скоро станут шпионами*

То, что в наступившем году в Беларуси активизируется кампания по выявлению шпионов, мало кого удивляет. Ведь власти обещают все же провести президентские выборы, которые мировое сообщество ждет уже второй год. Но правящий режим считает их проведение своим сугубо внутренним делом, для которого никакого несанкционированного гражданского наблюдения не требуется. Поэтому всякие замыслы оппозиции, международных структур организовать независимый от властей контроль за проведением выборов встречаются в штыки. Как известно, сам Лукашенко назвал возможных наблюдателей боевиками. А председатель КГБ генерал Ерин однозначно заявил, что вверенное ему ведомство будет квалифицировать попытки понаблюдать или оказать гуманитарную помощь незванной интервенцией, как подрыв существующего строя. Кстати, строй, который они готовы защищать, возник после приснопамятного референдума 1996 года, который мировое сообщество так и не признало.

Судя по разным заявлениям, которые периодически делают представители правящего режима, отлов шпионов в Беларуси производится постоянно. Но с разной интенсивностью, которая диктуется политической необходимостью. Оказывается, в следственном изоляторе КГБ находится целый интернационал шпионов. Там и какие-то «прибалты», граждане Германии и некоторых других стран мира. Правда, до сих пор чекисты отказываются назвать принадлежность недавно пойманного в Беларуси очередного шпиона. Надо полагать, не все они будут иностранцами. Почему-то многие позабыли, что в Беларуси еще несколько лет назад вернулись к советской практике профилактических бесед в КГБ с теми гражданами, которые своими контактами или другими видами существования могут оказаться в статусе шпиона. И «пригласить» таких могут просто, без официального письменного уведомления. Там, в КГБ, ему просто подскажут, как себя вести. Говорят, некоторые стихийные оппозиционеры после таких отеческих бесед даже благодарили тамошних собеседников за подсказки. Но ряды оппозиционеров так и не покинули.

Ну а непонятные, со стойким антилукашенковским иммунитетом, судя по тенденциям в работе КГБ, других режимных структур, довольно скоро могут пополнить растущие ряды иностранных шпионов.

*Окончание на стр.3*

## Ведай твар злачынцы



Чалавек у акулярах – супрацоўнік Партызанскага РУУС г. Мінска лейтэнант міліцыі Аляксандр Новікаў. Выслужваючыся перад рэжымам, збіваў затрыманых дзяўчат, нанёс пабоі Кацярыне Шабан, якія выклікалі ў дзяўчыны сатрасенне мозгу. Колькі ж гадоў дасць яму за злачынства паслухмяны ўладам беларускі суд?

## Куратар кіно — у адстаўцы

Пайшоў у адстаўку намеснік міністра культуры Юрый Цвяткоў, які курыраваў кінематограф. Па адной з версіяў, у яго не склаліся адносіны з новым міністрам культуры Леанідам Гулякам. Між тым, наступнікам Цвяткова ніхто не стане, бо, чакаецца, што гэтую пасаду ў міністэрстве наогул збіраюцца скарачаць.

## Дзень уласнасці

Учора ўпершыню ў гісторыі быў адзначаны Міжнародны дзень інтэлектуальнай уласнасці. Ад 2001 года ён штогод будзе святкавацца 26 красавіка. Такое рашэнне прынятае Сусветнай арганізацыяй інтэлектуальнай уласнасці (САІУ). Гэтая арганізацыя існуе ўжо тры дзесяткі гадоў і аб'ядноўвае ў сваім складзе 175 краінаў, у тым ліку Беларусь. У адмысловым пасланні САІУ з нагоды першага Міжнароднага дня інтэлектуальнай уласнасці гаворыцца, што сёлета ён праходзіць пад лозунгам «Стварыць будучае ўжо сёння».

## Украіна перастане быць «незамежжам»

Консульскія службы Беларусі і Украіны дамовіліся, што да 31 снежня 2001 года для перасячэння беларуска-ўкраінскай мяжы грамадзянам Беларусі па-ранейшаму дастаткова будзе мець пры сабе дакумент, які пацвярджае асобу і грамадзянства. А вось з 1 студзеня наступнага года, каб патрапіць на Украіну, неабходна будзе прад'явіць пашпарт, афармлены для паездак за мяжу.

**Наступны нумар газеты выйдзе ў пятніцу, 4 траўня**

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1360**

## Беларусь выставяць з ЕБРР?

Беларусь можа страціць членства ў Эўрапейскім банку рэканструкцыі і развіцця, калі да канца года ўлады не пачнуць праводзіць дэмакратычныя рэформы. Пра гэта заявіў у інтэрв'ю «Радыё Свабода» прэзідэнт ЕБРР Жан Лем'ер. Паводле словаў Лем'ера, на мінулым тыдні ён накіраваў Аляксандру Лукашэнку ліст, у якім выказаў заклапочанасць наконт адсутнасці дэмакратычных і рынкавых рэформаў у краіне. Эўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця разглядзіць сітуацыю ў Беларусі ў канцы года, пасля восеньскіх прэзідэнцкіх выбараў.

Членства ў ЕБРР дае Беларусі права на атрыманне крэдытаў для рэалізацыі розных праграмаў у галіне развіцця прыватнага сектара, малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, транспарту і сувязі. Раней прадстаўнікі банка падкрэслівалі, што ЕБРР зацікаўлены ў рэалізацыі доўгатэрміновых праектаў у Беларусі, аднак канстатавалі складанасць інвестыцыйнага клімату краіны.

Усяго членамі ЕБРР з'яўляюцца каля 60 краінаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**

## Першамай адмяняецца

Мінгарвыканкам не даў дазволу Партыі камуністаў Беларускай адзначыць традыцыйна свята працы – 1 траўня масавай дэманстрацыяй у цэнтры Мінска. Камуністы планавалі сабраць да 10 тысячаў чалавек на плошчы Незалежнасці з тым, каб, усклаўшы кветкі да помніка Леніну, прайсці на плошчу Перамогі і там правесці святочны мітынг. Гарвыканкам паслаў камуністаў у парк 50-годдзя Кастрычніка, дазволіўшы там з 11.00 да 12.00 правесці мітынг. Партыя камуністаў заклікала мінчан прыйсці 1 траўня ў 10.30 на плошчу Незалежнасці і ўскласці кветкі да помніка Леніну. Самае бяскрыўднае свята трапіла ў апалу цяперашняга рэжыму яшчэ ў 1999 годзе, калі ўлады ўпершыню забаранілі праўядзенне дэманстрацыі 1 траўня і мітынгу на 7 лістапада. «Улады баяцца людзей, якія выходзяць на вуліцу, бо інфляцыя расце, цэны растуць, а жыццёвы ўзровень насельніцтва катастрафічна падае. Таму ўладам нечага чакаць добрых словаў на свой адрас», — падкрэсліла сакратар ПКБ Алена Скрыган.

Пасля ўскладання кветак да помніка Леніну камуністы рушаць у парк імя Горкага паблізу плошчы Перамогі – тут Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская з 11.00 да 17.00 праводзіць дазволеную маёўку ды масавыя гулянні. Дазвол на мерапрыемства Мінгарвыканкам даў. У парку Горкага праводзіць маёўку і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада). У праграме святкаваньня – выступленні бардаў, раздача сацыял-дэмакратычнай літаратуры, сустрэчы з патэнцыяльнымі кандыдатамі ў прэзідэнты. Народная Грамада нагадвае, што «у Беларусі апошні раз забараняліся першамайскія дэманстрацыі ў пачатку мінулага стагоддзя – пры самадзяржаўі».

Відавочна, што ўлада панічна баіцца людзей на вуліцах, нават у святы.

**Рыгор БУЯН**

## Чарнобыльскія сталоўкі

Яшчэ, як гаворыцца, не высахла чарніла на новым дэкрэце Лукашэнкі аб некаторых ільготах для інвестыцыяў у найбольш радыяцыйна забруджаных раёнах Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей, як на месцы ў шарэнгі шыхтуецца абслуга бюджэтных установаў. Адміністрацыя Лунінецкага райспажыўсаюза, прыкладам, звярнулася ў суд з зыскам да аддзела адукацыі райвыканкама вярнуць запазыку ў 350 мільёнаў рублёў за харчаванне школьнікаў. Гэта значыць, што калі сапраўды ў раёне з'явяцца інвестары і пачнуць плаціць у бюджэт пэўныя падаткі, то яны зараз ніякім чынам не будуць скарыстаныя на сацыяльнае развіццё тэрыторыі. Акрамя райпо, яшчэ райсельгастэхніка, аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі, «Медтэхніка», райэнерга і шмат якія прадпрыемствы будуць спаганяць з бюджэтных установаў свае старыя даўгі.

**Каця МАРТЫНОВІЧ**

## Пінскія ўлады вымагаюць грошы

У Пінску на праўядзеньне Чарнобыльскага шляху падалі дзьве заяўкі дзьве групы грамадзянаў. На абедзьве заяўкі прыйшла папярэдняя згода — пры ўмове, што арганізатары Шляху заключаць дамову на абслугоўваньне мерапрыемства зь міліцыянтамі, дактарамі ды камунальнай службай.

У адной заяўцы арганізатары паведамляюць, што ў часе Шляху будзе працаваць дружына ды запрошаныя ў прыватным парадку мэдычныя работнікі. Але выканкамаўскія чыноўнікі запатрабавалі заключыць адмысловыя дамовы з гараддзелам міліцыі, аховай здароўя ды камунальнымі службамі.

У часе перамоваў з кіраўніцтвам пінскага гараддзелу міліцыі арганізатары прасілі накіраваць на шэсьце двух міліцыянтаў — каб перакрыць рух транспарту з маста праз раку Піна: гэта адзінае месца, дзе калёна можа замінаць дарожнаму руху. Аднак жа ў міліцыі замест 2-х супрацоўнікаў палічылі, што трэба 22 чалавекі, сярод якіх будзе 12 афіцэраў.

Афіцыйны рахунак уключае 2 гадзіны міліцэйскага часу ды яшчэ 20 літраў бэнзыну — працягласьць жа маршруту шэсьця ня больш як 1,5 кілямэтра. Разам кошт забесьпячэньня грамадзкага парадку ў часе руху калёны з 300 чалавек склаў 40 900 рублёў. Гаворыць адна з арганізатарак шэсьця Натальля Асмалоўская: «Гэта вельмі падобна да правакацыі. Мы грамадзяне Рэспублікі Беларусь, усе мы падаткаплатнікі. А тут за нашыя грошы нам прапануюць даплаціць дастаткова вялікую суму за працу міліцыянтаў, мэдыка і дворніка — нібыта мы ўжо гэтак насьмецілі падчас Шляху. Нас прымушаюць плаціць двойчы. Гэта бязглуздзіца ці правакацыя ўлады, скіраваная на тое, каб вымусіць нас на нейкія дзеяньні, якія б не зусім адпавядалі цяперашняму заканадаўству».

Дарэчы, паводле таго ж рахунку заробак міліцыянта дарожна-патрульнай службы складае 132 000 рублёў. Пакуль невядомыя кашатарысы на паслугі мэдыкаў, прадпрымальнікаў ды адміністрацыі гарадзкога парку, але арганізатары спадзяюцца, што заробкі гэтых службаў значна меншыя.

Каб пазьбегнуць небясьпекі зарыманьня ўдзельнікаў шэсьця, арганізатары вырашылі сплаціць усе запатрабаваныя сумы.

**Аляксей ДЗІКАВІЦКІ, Пінск, Радыё «Свабода»**

**Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ:**

Усё ў гісторыі паўтараецца. Чыноўнікі з Пінска былі не першымі, хто вынайшаў такі «экзатычны» шлях узбагачэння дзяржаўных служачых. Больш за паўстагоддзя таму нешта падобнае ўжо практыкавалася. У Германіі. Сем'ям людзей, што былі закатаваныя ў фашысцкіх канцэнтрацыйных лагерах, дасылаліся рахункі «за абслугоўванне»: сваякі забітага мусілі аплаціць кошт кулі і, верагодна, працу ката.

**ФОТАФАКТ**



Фота IREX/ProMedia

Магілёўская шаша на ўезде ў Мінск, 24 красавіка. Тут сабралася небывалая раней 10-кіламетровая «пробка»

## Свята працягнуць Баранавічы

На заключным этапе падрыхтоўкі Баранавічаў да свайго 130-гадовага юбілею ўжо вызначана ўрачыстая праграма гэтага свята. 25-26-27 траўня горад, пачатак якому вядзецца ад першага цягніка з Мінска праз Баранавічы ў Брэст у 1871 годзе, запросіць жыхароў і гасцей на экспазіцыю музея чыгуначнай тэхнікі, на кірмаш майстроў, вулічныя канцэрты, карнавальнае шэсце і парад лепшых духавых аркестраў Беларусі, якія запрошаныя на музычны фестываль «Баранавіцкая вясна».

Пры фактычным беспрацоўі з-за адсутнасці сыравіны на буйнейшым у горадзе баваўнянапаперовым камбінаце, дзе цалкам спыненая праца адной фабрыкі, і зніжэнні вытворчасці тавараў шырокага ўжытку на іншых да 85% у супастаўных коштах, горад-юбіляр прапануе весяліцца на бясплатным феерверку разам з дарагімі «зоркамі» эстрады.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Пушча просіць дапамогу

Самы малодшы з трох запалоненых зуброў у вальеры Белавежскай пушчы корміцца зараз за спонсарскія сродкі. Пра гэта паведамляе нават адмысловая бірка на павецці з сенам. А ў бухгалтэрыі нацыянальнага парку называюць суму ў 2.500 $, якую мэтава ахвяравалі замежнікі на пушчанскіх пакутнікаў за сеткай.

І вось зноў адміністрацыя найстарэйшага лесу Еўропы прапануе друкаваныя плошчы будучых кнігаў і буклетаў для рэкламы сваіх спонсараў, а ў музеі тым часам складаецца іх ганаровы спіс. Такім чынам, у ролі прасіцеля ўдзельнічае галоўны нацыянальны парк Беларусі ў Сусветным Маршы паркаў, што доўжыцца з канца красавіка да сярэдзіны траўня. І калі, прыкладам, іншыя прыродаахоўныя аб'екты са Спісу Сусветнай спадчыны чалавецтва (Белавежская пушча ўключаная ў яго рашэннем ЮНЕСКА пад №73) вымушана аб'мяжоўваюць турыстычны бізнес (узгадаем вадапад Вікторыя ці дажджавыя лясы Амазонкі), то ДНП «Белавежская пушча» можа зараз спадзявацца на прыбытак толькі ад праектаў на гранды ад міжнародных фондаў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Зберагаюць чыноўнікаў

У Кобрыне – змена «вертыкальшчыка»: Мікалай Гардзіевіч пераведзены ў Брэст на пасаду намесніка старшыні аблвыканкама, а ягонае месца заняў Віталь Бялінскі – былы намеснік начальніка абласнога ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

І хоць гэтая ракіроўка чыноўнікаў увогуле шаблонная, аднак за ёй утойваюцца палітычныя інтарэсы. Вядома, што структуры дзяржкантролю дэталёва вывучалі ў гарадах абласнога падпарадкавання (Кобрын, Ліда, Слуцк, Маладзечна і іншых), ці суразмерныя фінансавыя затраты на ўтрыманне апарату гарвыканкамаў з вынікамі іх дзейнасці.

У службовай запісцы кантралёраў была прапанова скасаваць гарвыканкамы як дублёры ва ўладзе, а вызваленыя сродкі выкарыстаць на сацыяльныя праграмы рэгіёнаў. У Кобрыне з-за гэтага гарвыканкам перапалохаўся ў выспу крушэння: чыноўнікі разбягаліся, а «мэр» падаўся ў Брэст. Аднак непрацягліцы апынуліся спадзяванні на злом бюракратычнай машыны. Яна зноў працуе пад прэзідэнцкія выбары.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## На Гродзеншчыне — таксама «грабавыя»

Хаця Гродзеншчына — далёкая ад Чарнобыля, ягоныя сляды ёсць і тут. Радыенуклідамі забруджаныя вёскі і лясы ў чатырох раёнах вобласці з семнаццаці, а калгасныя землі — нават у пяці. На забруджанай тэрыторыі жыве 26 тысяч чалавек.

З Гомельскай вобласці да нас пераехала каля 16 тысяч чалавек. Для іх пабудавана 4.720 кватэраў і дамоў. Але ў некаторых з 12 пасёлкаў, створаных для «чарнобыльцаў», іх амаль не засталося. У вобласці ёсць каля 6.500 «ліквідатараў». Такім чынам, частка жыхароў вобласці атрымлівае чарнобыльскія «грабавыя», а гэта — на буханку хлеба ў месяц! На думку А. Алёшына, начальніка абласнога аддзела па надзвычайных здарэннях і абароне насельніцтва ад наступстваў аварыі на ЧАЭС, пасля скасавання льготаў ліквідатарам дзяржава не выйграла, а наадварот.

Між іншым, на дзяржпраграму ліквідацыі чарнобыльскіх наступстваў на Гродзеншчыне выдзяляецца толькі сёмая частка ад патрэбнай сумы. У нас існуе 152 пункты радыяцыйнага кантролю, але дазіметры даўно састарэлі. Як ні дзіўна, але ў закранутых радыяцыяй раёнах вобласці ўзровень захворваемасці, як правіла, ніжэйшы ад іншых. Прыклад Дзятлаўскага раёна паказвае, аднак, што людзі часам не хвараюць, а проста паміраюць. Узровень смяротнасці там значна вышэйшы у параўнанні з іншымі раёнамі. Прычым вялікую частка адмаўляецца ад санаторных пуцёвак, просяць лепш грашовую кампенсацыю.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Філарэт — свяціла медыцыны?

Мітрапаліт і Патрыяэкзарх Філарэт абраны доктарам *honoris causa* Гродзенскага медыцынскага універсітэта. Хоць паміж рэлігіяй і медыцынай нічога агульнага няма і ўлады ка Філарэт ніколі не працаваў у шпіталі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Чыгункі пасварыліся, а церпяць людзі

Гомельскае аддзяленне Беларускай чыгункі (БЧ) адмяніла рух міждзяржаўных прыгарадных цягнікоў ад Гомеля да першай украінскай станцыі Гарнастаеўка. Як паведамілі БелаПАН у аддзяленні БЧ, гэта звязана з тым, што ўкраінскі бок, прадаючы білеты на дадзены цягнік, адмаўляўся весці разлік з гомельскімі чыгуначнікамі. У выніку ўтрыманне прыгараднага цягніка аказалася для гамяльчан непасільным.

Замест адмененых дызельцягнікоў Гомельскае аддзяленне БЧ арганізавала рух па гэтым маршруце пасажырскіх цягнікоў, пакольскі разлікі для дадзенай катэгорыі цягнікоў рэгламентаваныя. З-за гэтых змяненняў білет да Гарнастаеўкі зараз каштуе 2,9 тысячы рублёў замест ранейшых 600 рублёў.

**Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН**

## Замест «тройкі» – «пяцёрка»

25 красавіка па абедзе Мінск абляцела сенсацыйная навіна: фактычна замест чакаемай «тройкі» патэнцыяльных кандыдатаў у прэзідэнты створаная «пяцёрка». 25 красавіка экспрэм'ер Міхаіл Чыгір, былы міністр абароны Павел Казлоўскі, старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, лідэр нефармальнага аб'яднання «Гродзенская ініцыятыва» Сямён Домаш ды першы сакратар ЦК ПКБ Сяргей Калякін падпісалі сумесны зварот, які, па вялікім рахунку, з'яўляецца платформай пяці патэнцыяльных кандыдатаў. «Мы заяўляем пра дасягнутую дамоўленасць па каардынацыі нашых дзеянняў для дасягнення агульнай мэты – перамогі на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах».

У звароце выкладзеныя і прынцыпы, паводле якіх «пяцёрка» збіраецца дзейнічаць на этапе збору подпісаў фактычна адзінай камандай. Гэта – «вывад краіны з зацяжнога крызісу і пад'ём нацыянальнай эканомікі»; «рэальнае павышэнне дабрабыту людзей працы, пераадоленне беднаты і жабрацтва, надзейная сацыяльная абарона пенсіянераў, інвалідаў, чарнобыльцаў, навучэнцаў»; «развіццё і падтрымка аховы здароўя, культуры, навукі і адукацыі ў імя захавання нацыі»; «забеспячэнне не на словах, а на справе правоў і свабодаў грамадзянаў»; «развіццё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з Расіяй у Саюзе дзвюх суверэнных дзяржаваў, сяброўскіх адносінаў з краінамі Еўропы, усяго свету, пераадоленне міжнароднай ізаляцыі Беларусі»; «вяртанне ўлады народу, умацаванне мясцовых Саветаў і органаў самакіравання».

Такім чынам, можна канстатаваць, што замест чаканай «тройкі» (М.Чыгір, П.Казлоўскі і У.Ганчарык) апазіцыйныя А.Лукашэнку сілы стварылі «пяцёрку». «Гэта сведчыць за тое, што ўсё болей людзей разумее, што патрэбныя змены», — заявіў Міхаіл Чыгір. «Мы дамовіліся пра тое, што нейкія кардынальныя рашэнні па выбарах мы будзем узгадняць паміж сабой – і з Домашам, і з Калякіным.

Падтрымліваючы адзін аднаго і дапамагаючы, мы пойдзем на збор подпісаў і на рэгістрацыю, а пасля рэгістрацыі мы працягнем кансультацыі», — заявіў Міхаіл Чыгір. Механізм узаемадзеяння «пяцёркі» пасля рэгістрацыі не вызначаны. Аднак тры патэнцыйныя кандыдаты: Міхаіл Чыгір, Павел Казлоўскі і Уладзімір Ганчарык – ужо дамовіліся пра тое, што «сярод нас будзе адзін», — падкрэсліў экс-прэм'ер.

Першы сакратар ЦК Партыі камуністаў Сяргей Калякін, называючы падпісаны дакумент «значным крокам наперад», адмаўляе стварэнне нейкага блока. «Мы дамовіліся на тым, што будзем каардынаваць свае намаганні і дзеянні, скіраваныя на дасягненне галоўнай мэты – перамогі на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Гэта не блок, няма пакуль адзінага кандыдата... Але створаны механізм для кансультацыяў, каардынацыі сваіх дзеянняў», — заявіў Сяргей Калякін. На яго думку, «ні адзін з нас не можа стварыць сістэму назірання за выбарамі».

С.Калякін вызначыў часовыя рамкі дзеяння дакумента «як мінімум да моманту рэгістрацыі». Але гэта не азначае, што пасля рэгістрацыі падпісаны дакумент абавязкова страціць сілу. «Пасля рэгістрацыі ён не страчвае сілу, але, магчыма, будзе пераўтвораны ў нешта іншае».

**Рыгор БУЯН**




Мінск, плошча Свабоды, 26 красавіка, 17 гадзін. Тысячы людзей збіраюцца на прысвечаную 15-й гадавіне Чарнобыльскай катастрофы імшу. Як павядзе сябе міліцыя і што будзе з удзельнікамі гэтага недазволенага ўладамі мерапрыемства, на момант здачы газеты ў друк было невядома. Падрабязнасці ў наступным нумары

# 15 гадоў Чарнобыльскай катастрофы

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У якасці нясучых канструкцыяў выкарыстоўваліся сцяна, якая захавалася пасля выбуху, і дзве бетонныя шахты разбуранага блока, а таксама нанава адбудаваныя канструкцыі. Пры збудаванні саркафага было выкарыстана больш за 300.000 кубаметраў бетону, больш за 7.000 тонаў металёвых канструкцыяў былі змантаваныя. Колькасць працоўных брыгадаў сягала 10.000 чалавек.

Навукоўцы адзначаюць, што ўнутры аб'екта «Сховішча» знаходзіцца 32 мільёны кюры рэчываў з перыядам паўраспаду больш за 10 гадоў. Але пасля паўраспаду рэчывы таксама застаюцца радыеактыўнымі.

Беларускія даследчыкі паведамляюць: праз 9 гадоў пасля Чарнобыльскай катастрофы выпадкі захворвання на лейкемію падвоіліся, а то і патроіліся, але пік захворвання яшчэ не дасягнуты. Кожны пяты «ліквідатар наступстваў аварыі» памёр, кожны шосты з тых, хто застаўся жывы, афіцыйна прызнаны інвалідам.

Пасля 1986 года ў сотні разоў павялічылася таксама колькасць дзяцей, што хварэюць на рак шчытападобнай залозы. Гэты скачок захворвання называюць ёдным ударам – моцным выкідам кароткажывучых ізатопаў, якія канцэнтруюцца ў шчытападобнай залозе.

Член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, прафесар Іван Нікітчанка выступіў у сераду на 5-м Міжнародным кангрэсе «Свет пасля Чарнобыля», што праходзіў у Мінску. Ён паведаміў, што з 1,6 мільёна гектараў сельгасугоддзяў з шчыльнасцю забруджвання радыецэзіем-137 больш за 1 кюры на квадратны кіламетр цяпер выкарыстоўваецца больш за 1,3 мільёна га. На іх вядуць сельскагаспадарчую дзейнасць 757 гаспадарак. Гэта значыць, што ўсе яны выраблюць недабраякасную з радыяцыйнага пункту гледжання прадукцыю – малако, мяса і г.д.

У выніку істотна падвысілася ўдзельная радыеактыўнасць у насельніцтва, галоўным чынам, сельскіх жыхароў, асабліва дзяцей. Доза апрамянення, якая прыходзіцца на іх, у 3-5 разоў вышэйшая, чым у дарослых сельскіх жыхароў, і ў 15-20 вышэйшая, чым у гараджанаў.

**Ірына СТАРЦАВА**

# Чарнобыль накрыюць за еўрапейскія грошы

Над зачыненай Чарнобыльскай атамнай электрастанцыяй будзе пабудаваны новы саркафаг. Грошы на гэта выдзеліць Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Пра гэта паведаміла радыёстанцыя *Deutsche welle*.

У мінулую нядзелю ў Лондане адкрылася штогадовая канферэнцыя ЕБРР, на якой адразу пачалося абмеркаванне праблемы будаўніцтва другога чарнобыльскага саркафага замест першага, састарэлага. Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця з'яўляецца адным з галоўных удзельнікаў гэтага праекта. Еўропу вельмі непакоіць небяспека, якая па-ранейшаму зыходзіць ад радыеактыўнага аб'екта, які быў урачыста зачынены 15 снежня 2000 года.

Перамовы скончыліся паспехам, і інфармацыйныя агентствы паведамілі, што ў гэты аўторак прадстаўнікі Украіны і кіраўніцтва Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця дасягнулі дамоўленасці аб будаўніцтве новага саркафага вакол аварыйнага 4-га блока Чарнобыльскай АЭС. Ён мусіць гарантаваць бяспеку блока на тэрмін больш чым 100 гадоў. Праектаванне і збудаванне другога чарнобыльскага саркафага зойме не менш за 5 гадоў і будзе каштаваць як мінімум 700 мільёнаў долараў.

ЕБРР плануе выдзеліць на новы саркафаг нават болей – 758 мільёнаў долараў, паведамляе *Gazeta.ru*. Будаўніцтва мусіць пачацца ўжо ў 2002 годзе. Пры гэтым навукоўцы прадказваюць, што стары саркафаг можа развaліцца ў любы момант.

Як вядома, пасля выбуху ў ноч з 25 на 26 красавіка 1986 года чацвёрты рэактарны блок Чарнобыльскай АЭС быў накрыты саркафагам, збудаваным з сталі і бетону. Аднак, як паведамляе нямецкі часопіс Focus, цяпер саркафаг настолькі састарэў і разбурыўся, што праз дзіры і расколіны ў ягоным корпусе вылятае радыеактыўны пыл, які потым асядаецца на вялікай тэрыторыі вакол АЭС. Пра гэта часопісу распавёў вядомы ўкраінскі эксперт у галіне атамнай энергетыкі, былы намеснік генеральнага дырэктара ЧАЭС Валянцін Купны. Ён кажа, што саркафаг можа рухнуць у любы час, і гэты момант залежыць толькі ад надвор'я. А гэта значыць, што неўзабаве Украіну – як і Беларусь, як і іншыя краіны Еўропы чакае новая катастрофа.

Прадстаўнікі ўкраінскай нацыянальнай атамнай энергагенеруючай кампаніі «Энергаатам» распавялі *Gazete.ru*, што рашэнне аб узвядзенні новага саркафага было прынятае яшчэ два гады таму.

Асноўная праблема, якая паўстала перад адмыслоўцамі тут, – якім мусіць быць новы саркафаг. Разглядаліся адразу тры праекты «Сховішча-2»: «Рама», «Арка» і «Кансоль». Усе яны адрозніваліся адзін ад аднаго як сваёй формай, так і матэрыялам, з якога мусілі рабіцца. «Рама» прадстаўляла сабой бетонны паралелепіпед, «Кансоль» – збудаванне ў выглядзе пірамiды з жалезабетону, а «Арка» выглядала як паўкруглая канструкцыя з металу.

Кіраўнік прэс-службы Чарнобыльскай АЭС Станіслаў Шакстэла паведаміў, што на мінулым тыдні пасля доўгага вывучэння адмыслоўцы аддалі перавагу менавіта саркафагу тыпу «Арка». Гэтая канструкцыя будзе мець 90 метраў у вышыню і важыць больш за 100.000 тон.

Па словах С.Шакстэлы, буйную паўсферу будуць збіраць у бяспечным месцы. Пасля гэтага канструкцыю разбяруць на часткі і ў такім выглядзе даставяць на атамную станцыю. Пры дапамозе адмысловай тэхнікі там будзе праведзены фінальны мантаж – паўсфера накрые стары саркафаг. Пачатак будаўніцтва запланаваны на снежань 2002 года.

Але нават узвядзенне новага саркафага не вырашыць цалкам Чарнобыльскай праблемы. Адмыслоўцы лічаць, што небяспечная чарнобыльская зона стане не раней, чым праз 100 гадоў.

С.Шакстэла паведаміў, што асноўная праблема палягае ў выняцці і абясшкоджанні радыеактыўных паліваўтрымліваючых масаў, якія знаходзяцца пад саркафагам. Ужо цяпер распрацоўваецца доўгатэрміновая праграма, у адпаведнасці з якой будаўніцтва адмысловага магільніка для захавання радыеактыўнага паліва, а таксама працы па выняцці гэтага паліва плануецца пачаць толькі праз 40-50 гадоў. Гэтай працай будуць займацца не людзі, а робаты з дыстанцыйным кіраваннем.

Для кожнага з участкаў аб'екта (рэактар, падрэактарныя памяшканні, машынная зала, каскадны мур, прамысловая пляцоўка) неабходна будзе распрацаваць асобныя тэхналогіі пошуку і выняцця радыеактыўнага паліва.

На момант аварыі ў 4-м блоку знаходзілася 180 тонаў гэтага паліва. На сённяшні дзень вядома пра месцазнаходжанне толькі каля 140 тонаў. Гэта значыць, што трэба будзе высвятляць, куды падзеліся яшчэ каля 40 тонаў надзвычай небяспечнага рэчыва. Канчатковае рашэнне пра шляхі выняцця будзе прынятае ў 2005 годзе.

Начальнік прэс-службы Чарнобыльскай АЭС распавёў таксама, што група ўкраінскіх навукоўцаў прапанавала захаваць радыеактыўнае паліва непасрэдна на месцы аварыі. Для гэтага яны прапанавалі зрабіць падкоп пад рэактар і прабурыць там шахту глыбінёй каля 3 кіламетраў. Аўтары праекта падлічылі, што на ўсю працу спатрэбіцца толькі 3 мільёны долараў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Охотники за шпионами входят во вкус

*Окончание, начало на стр.1*

К таковым, по сути, приравняли недавно высланного из Беларуси чешского гражданина Михала Плавца. С многозначительными намеками на прошлую деятельность в качестве первого секретаря посольства США в Беларуси власти решили отказать во въездной визе Дайане Моксей, старшему советнику уполномоченного по СМИ в ОБСЕ. В белорусском МИДе считают, что с госпожей Д.Моксей поступили в полном соответствии с Венской конвенцией. Кстати, после Минска она работает именно в Вене. По некоторым данным, визовый режим в Беларуси ужесточится. Якобы существует целый список иностранных граждан, которым въезд в Минск заказан. По крайней мере, на предвыборный период. Какие-то вариации въезда-выезда, видимо, разрабатываются и для видных оппозиционеров. Не исключено, что для них передвижения в мировом пространстве будут регулировать в зависимости от эффективности оппозиционной деятельности. Некоторые наблюдатели вполне допускают ужесточения и в отношении прибывших из братской России демократов. Помнится, что приехавших из Москвы юных антифашистов белорусские стражи режима уже гоняли. Доставалось и журналистам российских СМИ. Даже тогдашний посол России господин Лащинин был вынужден встать на защиту своих граждан. Интересно такое совпадение. Как и госпожа Моксей, после работы в Минске господин Лащинин также переехал на работу в Вену. Говорят, не так давно он стал замминистра иностранных дел РФ. Все гадают, как в нынешнем году поведет себя российское руководство в случае, если придется защищать своих граждан на белорусской земле.

Во время правления Лукашенко появилось множество спецслужб. Все они так или иначе работали на режим его личной власти. При полном отсутствии какого-либо гражданского и парламентского контроля. Однако правитель вдруг почувствовал угрозу с их стороны. Поэтому и произвел серию шумных кадровых перестановок в силовых структурах в ноябре прошлого года, вновь над страной открыто воцарилась организация из трех букв — КГБ. Правда, всем известно, что выходцы из нее составляют костяк нынешнего режима, сидят во всех госструктурах. Раньше, во время заграничных поездок главы государства, как правило, на хозяйстве оставался госсекретарь Совета безопасности. Теперь председатель КГБ. Рост своего значения в руководстве страны он и старается оправдать бурной активностью в поисках шпионов. Известная логика — если их нет, то надо придумать. По-другому ведь управлять государством не получается. Шпионские страсти, которые сейчас разжигаются, свидетельствуют — охотники за шпионами входят во вкус. Похоже, даже разнарядки имеются. Как у их исторических родителей.

В своей работе чекисты руководствуются многочисленными внутриведомственными инструкциями, другими документами и принятыми после референдума 1996 года законами. Известно, что с тех пор в законодательстве стали главенствовать указы и декреты. По мнению независимых экспертов, законы у нас, особенно самые жестокие, даже те, которые вроде бы и не работали, имеют тенденцию периодически срабатывать. Они применялись избирательно, по случаю и по поводу: возникла необходимость — принимали, кампания шла — действовали, кампания сходит на нет — о законах забывали. Но, оставаясь, их можно включать когда угодно. И весь произвол заключается в том, что они могут работать избирательно. В зависимости от политической воли.

Ожидается, что для Беларуси нынешний год может стать судьбоносным. Есть возможность сделать выбор между гражданским, цивилизованным управлением государством и «чекизированным». Последнее означает приоритет тайных методов управления обществом, абсолютизация каких-то «тайных пружин истории». Мысля себя как касту, чекисты полагают, что они все понимают, все знают и во всем могут разобраться. Отсюда и убежденность, что обществом можно манипулировать как угодно.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Што маўчыш? А як свістаў!

Ёсць анекдот, як прыйшоў да кабеты ў адсутнасць яе мужыка нейкі валацуга, выпіў, закусіў, лёг з ёй у ложак, зрабіў што хацелася, ды пасвістае сабе. А тут раптам вяртаецца гаспадар. Дык валацуга спужаўся, залез пад койку, сцішыўся і не дыхае. Гаспадар падышоў да ложка і пытае: «Што, маўчыш? А як свістаў!».

Прыкладна гэтак можна пераказаць пікантную сітуацыю, у якую трапіў па сваёй ахвоце Аляксандр Лукашэнка. Не так даўно ён недзе там ізноў каторы ўжо раз выступаў і гэтак раздухарыўся, гэтак разняволіўся, што згубіў пачуццё меры. Зрабіў выклік сваім палітычным апанентам, дэмакратычнай апазіцыі: давайце, маўляў, разам нападаем чарнобыльскую зону, дзе мы сустрэнемся і правядзём разам «Чарнобыльскі Шлях». Там, маўляў, і абмяркуем гэтую праблему.

Што на яго найшло? Адкуль смеласць узялася? Мусіць, сарвалася з языка нечакана для самога сябе. Ён думаў, што як сам баіцца туды ездзіць, дык і апазіцыянеры не схочуць. А тыя, доўга не думаючы, кажуць: давай, бляха муха! Давай, калі язык не мянташка! Гэтакі палітычны двубой.

Лідэры і актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі на чале з Аляксандрам Дабравольскім хуценька сабралі лекі, падарункі дзецям і арганізавалі вялікую кампанію ахвочых правесці Чарнобыльскі Шлях у трыццацікіламетровай зоне разам з Лукашэнкам, ды і пішуць ягоным біюракратам: мы ўжо падрыхтаваліся, дзе сустракаемся з вашым шэфам? А біюракраты, натуральна, сядзяць ужо з мокрымі штанамі, бо ведаюць цану лукашэнкаўскім запрашэнням. А потым сам сабе ўявi, чытач: Лукашэнка сваёй ахвотай палезе ў трыццацікіламетровую зону? А калі нават надумаецца, дык што там пачуе і ўбачыць? А які пакажуць тады па тэлебачанні ягоныя мудрагелістыя развагі, калі будуць сумленныя сведкі ягонай вандроўкі? Перад кім ён будзе разводзіць рукамі, калі з усіх бакоў стануць апазіцыянеры, якія ведаюць яго як аблупленага? А што будзе, як людзі пачнуць пры гэтакай персоне вітаць тую апазіцыю ды бэсціць уладу? Што ён адкажа на крытыку, калі адвык ад нармальных чалавечых кантактаў, калі гадоў пяць палітыкай не займаецца і не ведае нават сапраўднага становішча ў краіне? Будзе пахвалкі кідаць?

Здагадаўся, чытач, чым гэты публічны лукашэнкаўскі рыцарскі выклік абярнуўся? Смуродам па ягоным тэлебачанні і больш нічым. Але ж навуку Лукашэнка, пэўна, добрую атрымаў. Мусіць і да тэтага часу дрыжыкі ў каленях. Бо дэлегацыя апазіцыі ў зону ўсё ж такі паехала. І зараз пытаюцца хлопцы ў тамтэйшых ахвотнікаў: вы, часам, Лукашэнку не бачылі? Не прабегаў міма? Ён нам спатканне тут прызначыў. Гэтак прыгожа свістаў!

**Тамаш ПАЛЬМАЧЫНСКІ**

# Барадзіна ў Расіі не любяць

Фонд «Грамадская думка» апытаў грамадзянаў Расіі наконт надзвычайнага «вызвалення» дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Паўла Барадзіна з швейцарскай турмы пад заклад у 3 мільёны долараў. Апытанне праводзілася 21 красавіка сярод 1.500 гараджанаў і сялянаў.

Вынікі апытання даволі цікавыя. Станоўча ацанілі факт вызвалення П.Барадзіна з-пад варты толькі 20% расіянаў – кожны пяты. Пры гэтым аж 29% апытаных паставіліся да гэтага факту рэзка негатыўна, заявіўшы нешта накшталт «Злодзей мусіць сядзець у турме», а яшчэ 40% апытаных не адчувалі ніякіх эмоцыяў на гэты конт.

Толькі 18% ухвалілі рашэнне расійскага кіраўніцтва выдзеліць 3 мільёны долараў заклады за дзяржсакратара. 62% выказаліся рэзка супраць гэтага кроку.

Яшчэ менш расіянаў вераць у сумленнасць былога крамлёўскага кіраўніка справамі – усяго 9%. 58%, наадварот, перакананыя, што ён з'яўляецца заўзятым карупцыянерам.

**Барыс САЗАНОВІЧ**

# У Мсціслаўі будзе маскарад

## *У горадзе, дзе няма нават прыстойнай школы для дзяцей, будуць святкаваць Дзень беларускага пісьменства*

*Сёлета восьмы раз павінна адбыцца Свята беларускага пісьменства. У папярэднія гады цэнтрамі яго правядзення былі Полацк, Тураў, Навагрудак, Нясвіж, Орша, Пінск, Заслаўе. Цяпер палымяныя прамовы пра павагу ўрада і найгалоўнай адміністрацыі да беларускай культуры пачуе старажытны Мсціслаў.*

Ад былой велічы Мсціслава – аднаго з найбольш значных палітычных, эканамічных і культурных цэнтраў сярэднявечнай Беларусі амаль нічога не засталося. Нават цяжка ўявіць, што некалі тут кіпела жыццё, ішоў інтэнсіўны гандаль з суседнімі краінамі, квітнелі навука і мастацтва, дзейнічалі цэнтры па вырабе керамікі, кафлі, шкла. Нагадваюць аб тых далёкіх часах толькі рэшткі ўзведзеных тут некалі славутымі майстрамі драўляных і мураваных замкаў, цэркваў, касцёлаў, кляштараў ды звесткі ў энцыклапедыях аб тым, што з тутэйшых мясцінаў родам славуты першадрукар і гравёр 16 стагоддзя Пётр Мсціславец, які выдаў разам з І.Фёдаравым «Апостал» і «Часоўнік», заснаваў Заблудаўскую друкарню і выдаў там «Евангелле вучыцельнае»... Як гэта ні дзіўна, але гараджане дасюль яшчэ не ўзвялі помнік свайму праслаўленаму суайчынніку.

Цяпер Мсціслаў – адзін з соцень падобных да яго малых правінцыйных гарадоў з насельніцтвам у 13 тысяч жыхароў, дзе няма буйных прамысловых прадпрыемстваў, а значыць, і перспектываў на будучыню. Хаця гэты горад і цяпер вабіць да сябе людзей, якія шануюць гісторыю і цікавяцца мінуўшчынай свайго краю. У горадзе і яго ваколіцах налічваецца 19 помнікаў архітэктуры XVII–XX стагоддзяў. Гістарычны цэнтр Мсціслава захаваў планіроўку сярэднявечнага паселішча з плошчай, якая абкружаная культавымі пабудовамі і паркамі. Вузкія вулачкі разбягаюцца ад цэнтра і вядуць да старажытнага гарадзішча. Пры пэўных умовах гэты горад мог бы стаць турыстычнай Мекай, своеасаблівым музеем пад адкрытым небам. Але ні наяўнасць багатай біяграфіі, ні мноства гісторыка-архітэктурных помнікаў пакуль што не дапамагаюць адраджэнню горада. На сёння Мсціслаў – занядбаная, забытая Богам беларуская глыбінка. Спадзяванні жыхароў на тое, што правядзенне чарговага Дня пісьменства неяк дапаможа «прыпадняць з каленяў» некалі квітнеючы край, ужо цяпер бачна, абсалютна марныя. У мясцовага кіраўніцтва адзін толькі напамін пра будучае свята выклікае галаўны боль. Пачынаючы з мінулага года, яны збіраюцца ўжо неаднойчы, каб утрэсці праграму і акрэсліць затраты на гэтае мерапрыемства. З чаго пачынаць? У жахлівым становішчы аўтастанцыя, якая нагадвае руіны, гасцініца і рэстаран не рамантаваліся, напэўна, з часоў першага палёту чалавека ў космас, развальваюцца Дом культуры і кінатэатр, у аварыйным стане сярэдняя школа, якая літаральна трымаецца на падпорках... У яшчэ горшым становішчы помнікі архітэктуры. Тэрміновай рэстаўрацыі патрабуюць царква ў вёсцы Мазолава, гандлёвыя рады і шэраг іншых аб'ектаў. На ажыццяўленне ўсіх гэтых работ гораду спатрэбіцца па самых сціплых падліках 20 мільярдаў рублёў. Але сумы гэтай Мсціславу не відаць, канешне ж, ні цяпер, ні ў бліжэйшай перспектыве.



«Сем свабодных мастацтваў», якім не панаваць на свяце «пісьменства» у Мсціслаўі

У канцы сакавіка «на аб'екце» прайшло першае паседжанне аргкамітэта Дня беларускага пісьменства з удзелам мясцовага і абласнога кіраўніцтва, а таксама сталічнага начальства. Старшыня Дзяржкамдруку паведаміў, што на ўсё пра ўсё з рэспубліканскага бюджэту будзе выдзелена 200 мільёнаў, а з абласнога – 210. Гэта ўсяго 10 працэнтаў ад патрэбнай сумы. Натуральна, гэта разбурыла ілюзіі кіраўніцтва горада наконт таго, што свята дапаможа штосьці сур'ёзна адрамантаваць і рэстаўраваць. Па каштарысе толькі на прывядзенне ў належны выгляд жыллёва-камунальнай гаспадаркі горада патрэбна звыш 800 мільёнаў, на помнік Пятру Мсціслаўцу – 300 мільёнаў, на ўпарадкаванне цэнтральнай плошчы са скверамі – 210 мільёнаў. Гэта не гаворачы аб сур'ёзных рэстаўрацыйных работах на помніках. Словам, гораду выдзелены капейкі, якіх хопіць толькі на ажыццяўленне касметычных мерапрыемстваў, на стварэнне дэкарацыяў. Дзякуй Богу, адрэстаўраваць тутэйшы касцёл, помнік XVII стагоддзя, узялася суседняя дзяржава – Польшча.

Прывабны антураж, як летась у Заслаўі, будзе створаны толькі па маршруце следавання святочнай працэсіі. (Ні аб якім сур'ёзным рамонце і рэстаўрацыі помнікаў гаворка нават не вядзецца, больш таго, частку работ павінны будуць ажыццявіць жыхары за свой кошт, напрыклад, адрамантаваць і прывесці ў парадак фасады ўласных хатаў.) Можна ўявіць, якая шкода пры такой сітуацыі можа быць нанесеная помнікам. У Заслаўі, напрыклад, пры падрыхтоўцы да свята быў пашкоджаны археалагічны слой, па-варварску знішчаныя старадаўнія могілкі, вынішчаныя старыя прысады. Без сумнення, па той самай схеме, якая дзейнічае пры «паказушных» мерапрыемствах, будуць ажыццяўляцца і работы ў Мсціславе. Атрымліваецца, што хітрае чынавенства зноў спрабуе «зварыць суп з сякеры».

Дзеля чаго патрэбная ўся гэта неразумная святочна-фэставая валтузня нашай дзяржаве? Безумоўна, каб паказаць, што кіраўніцтва краіны дбае аб сваім народзе, яго гісторыка-культурнай спадчыне. Але на самай справе такія фэсты звычайна ператвараюцца ў кароткатэрміновую акцыю з масавымі гуляннямі і наборам стандартных мерапрыемстваў. Свята беларускага пісьменства, якое задумвалася беларускай інтэлігенцыяй з мэтай падтрымкі малых гарадоў і мястэчкаў Беларусі, ператварылася ў маскарад на фоне дэкарацыяў.

**Ганна ПІЛАТОВІЧ**

# У пошуках даверлівых дурняў

## *Улада спадзяецца ўратавацца з дапамогай прапагандысцкай саломіны*

Днямі зайшоў у адно з міністэрстваў да універсітэцкага сябра, які займае там даволі значную адміністратыўную пасаду. Непрыемна ўразіла бязлюддзе ў звычайна тлумных калідорах установы. Прыкладна так яны выглядалі ўлетку 1979 года, калі чынавенства кінулі рыхтаваць галінкавы корм для вечна галодных калгасных каровак. Аказалася, што палова супрацоўнікаў раз'ехалася па краіне, каб рыхтаваць народ да ўсебеларускага сходу ці як там гэта глупства называецца.

А на наступным тыдні ў «рэгіёны» адправіцца другая палова міністэрскіх спецыялістаў. Мой сябра таксама паедзе. Кажа, трэба шукаць новае месца працы. А дзе ты яе знойдзеш такую, каб і сумленне зберагчы ды атрымоўваць тыя ж 120-130 долараў. Вось і хваліць тое, чаго няма, і ганіць тое, чаго ніколі не будзе. Адно слова, прапаганда. Добра яшчэ калі гутарку даводзіцца весці з падрыхтаваным актывам, бо сёння непасрэдна (не праз тэлевізію, не праз «Советскую Белоруссию»), а на фабрыках і фермах небяспечна. Могуць і ў морду даць.




Фота IREX/ProMedia

Але ж вядома, чым больш бруднае жыццё, тым больш трэба паласкаць мазгі, каб чалавек, гледзячы на чорнае, лічыў яго белым. З гэткай вось нагоды калегія прэзідэнцкай адміністрацыі абмеркавала стан справы з фармаваннем адзінай дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі, у выніку чаго на свет белы з'явілася падрабязная даведка пра стварэнне добрага прапагандысцкага і псіхалагічнага фону і паляпшэнне «информационного обеспечения населения».

Дакумент гэты мае канстатуючую і тэхналагічную часткі. У першай пералічаныя дасягненні і недахопы. Аказваецца, што прапагандысцкі фронт у нас узброены да зубоў, але не ўсе прапагандысты ўмеюць гэтай зброяй добра карыстацца. Прынамсі, у 56 міністэрствах і камітэтах пытанні інфармацыйнай работы вядуць намеснікі міністраў або старшыняў камітэтаў. А ўсяго прапагандыстаў, якія маюць статус намеснікаў кіраўнікоў на прадпрыемствах, амаль што дывізія (6.303 чалавекі), з якіх 1.595 байцоў гандлююць «прапагандысцкай каўбасой» на прафесійнай аснове.

Пры выканкамах розных узроўняў дзейнічае 1.079 інфармацыйна-прапагандысцкіх групаў у складзе 8.245 чалавек. Вось колькі ў нас «песняроў» існуючага ладу. І, вядома, гэтая прорва адным кабанчыкам яўна не задаволіцца.

Усяго, як адзначылі на калегіі, на пачатак бягучага года ў нашай краіне зарэгістравана 1.200 перыядычных выданняў, якія, на думку калегіянтаў, не ўсе добрыя. Таму што адны (апазіцыйныя) «все чаще выступают с антигосударственных позиций, однако субъективные и заангажированные материалы не получают должной реакции со стороны государственной прессы, которая обязана убедительно отстаивать государственные интересы, защищать общественную мораль, честь и достоинство граждан».

Аўтары даведкі заклапочаныя тым, што не ўсё ўдаецца паставіць пад кантроль. У прыватнасці інтэрнэт, дзе, на іх думку, «вольготно располагаются политические авантюристы и разжигатели слухов... оказывающих негативное воздействие на социальное здоровье общества».

Зразумела, што сярод недахопаў прапагандысцкай дзейнасці называюцца традыцыйныя, да болю знаёмыя. Гэта адрыў ідэалагічнай работы ад жыцця, перавага колькасных паказчыкаў над якаснымі, фармалізм, малазмястоўнасць ды іншыя дасягненні перыяду загніваючага сацыялізму.

А, уласна, ці можа быць паіншаму, калі нават самі прапагандысты не вераць у тое, пра што распавядаюць. А людзі гэта добра адчуваюць, не адны ж у нас дурні. Ды здаецца, што разумных больш. Бо чаму можна толькі радавацца, і чаму зусім не рады калегіянты, арганізацыі і грамадзяне пачалі адказвацца ад паслугаў правадной сеткі радыёвяшчання. Толькі ў мінулым годзе па пісьмовых заявах абанентаў адключана 57.458 радыёкропак, у тым ліку ў сельскай мясцовасці — 24.801 кропка.

А з улікам таго, што ў вёсцы далёка не кожная сям'я выпісвае газеты, што большасць тэлевізараў у вясковых хатах даўно вычарпалі магчымасці для эксплуатацыі, што навіны па БТ глядзяць толькі фаны, разумееш, што інфармацыйны канал уладаў не надта шырокі. Ён больш падобны да старой канавы, у якую неахайныя гаспадары валяць розны бруд.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Антыдыктатарскі перформанс

Група беларускіх артыстаў вярнулася з Санкт-Пецярбурга, дзе брала ўдзел у штогадовым міжнародным фестывалі «Скіф».

Як паведаміў БелаПАН удзельнік творчай акцыі, літкансультант Саюза беларускіх пісьменнікаў Зміцер Вішнеў, фестываль праходзіў з 20 па 22 красавіка і быў арганізаваны вядомым расійскім дзеячам культуры Сяргеем Курохіным. Удзел у ім узялі больш за сто творчых калектываў з многіх краінаў свету. Беларусь прадстаўлялі групы «Драм экстазі», «Князь Мышкін», «Тэатр псіхічнай неўраўнаважанасці» і «Спецбрыгада афрыканскіх братоў». Найбольшую цікавасць удзельнікаў і гасцей фестывалю «Скіф» выклікаў антыдыктатарскі перформанс «Спецбрыгады...». Іх прадстаўленне называлася «Труп дыктатара-2». Басанож, апранутыя ў шынялі артысты з панчохамі на галовах, якія надавалі ім падабенства з бандытамі, вынеслі стылізаваны трупік дыктатара, прыкрыты дзіцячым камбінезонам і маскай з пап'е-машэ. Спачатку яны з крыкамі поўзалі вакол трупіка па-пластунску, а затым выцягнулі з яго чэрава яйкі і чырвоныя цагліны. Яйкі былі адразу з'едзеныя, а цэглай — зброяй дэманстрантаў — артысты сталі біць па падлозе. У канцы прадстаўлення бездыханнае цела, якое сімвалізавала дыктатара, было вынесенае ў кабінку мужчынскага туалета.

Цікавасць, якую выклікала ў Санкт-Пецярбургу прадстаўленне беларускіх артыстаў, Зміцер Вішнеў тлумачыў так: «Праблема дыктатуры актуальная сёння не толькі для Беларусі, Кубы і Паўночнай Карэі, але і для Расіі з яе праблемай Чачні».

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**

# Таямнічы шпіён можа быць фантомам

Інфармацыя аб затрыманні 18 красавіка ў Мінску замежнага грамадзяніна з доказамі злачынства пры атрыманні сакрэтных дакументаў можа быць выдумкай, заявіў БелаПАН 23 красавіка акрэдытаваны ў Беларусі заходні дыпламат, які пажадаў захаваць ананімнасць.

Аб гэтым затрыманні 19 красавіка паведаміў Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі, сцвярджаючы, што замежнік займаўся вярбоўкай беларускіх грамадзянаў і зборам разведвальнай інфармацыі. Затрыманы, чыё грамадзянства спецслужбы не назвалі, бо «не імкнуцца ўскладніць адносіны Беларусі з гэтай краінай», быў нібыта змешчаны ў следчы ізалятар КДБ.

Аднак, паводле словаў дыпламата, яго пасольства кантактавала з іншымі замежнымі пасольствамі ў Беларусі, і ніводнае з іх не мела інфармацыі аб затрыманні сваіх грамадзянаў. Тое ж самае паведамілі БелаПАН з шэрагу іншых інфармаваных крыніцаў. Яны дапускаюць, што нейкае з пасольстваў утойвае інфармацыю аб затрыманні свайго грамадзяніна ці тое, што быў затрыманы грамадзянін краіны, якая не мае пасольства ў Мінску. «У той жа час я не здзіўлюся, калі гэта выдумка беларускіх уладаў», — заявіў заходні дыпламат.

Паводле словаў прадстаўніка аднаго з заходніх дабрачынных фондаў, які працаваў у Беларусі, такая выдумка можа выкарыстоўвацца ўладамі, каб нагнятаць падазронасць да замежнікаў у беларускім грамадстве напярэдадні сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў.

**Алесь АБРАМОВІЧ**

# «Канчатковы дыягназ» галоўнаму пацыенту

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Без дваццаці сем на сцэну ў парку вылез малады чалавек і зачытаў заяву «Зубра» ў мегафон, а за ім з'явілася расцяжка «Скажем дураку — нет!»

А пасля з'явіўся АМАП і 38 чалавек былі затрыманыя і даставленыя ў Партызанскі РАУС.

Але і там вяселле працягвалася. Народ спяваў песні, а адзін з затрыманых нават танчыў. Пасля, праўда, міліцыянты крыху супакоілі народ, але толькі да сыходу трох гадзінаў, дазволеных на ўтрыманне без якіх-небудзь працэсуальных дзеяньняў. Затым хлопцы і дзяўчаты пачалі скандаваць «Тры га-дзі-ны!» і «Вы ні-хто!» Міліцыянты былі ў разгубленасці – яны чакалі загаду зверху. Адзін з міліцыянтаў – Уладзімір Новікаў, сам былы студэнт, выпускнік педуніверсітэта, у мінулым жыхар вёскі Гайна, падышоў да адной з затрыманых Кацярыны Шабан, студэнткі таго ж ВНУ, і, па сведчанні астатніх, узяў яе за шыю ды некалькі разоў стукнуў галавой аб сцяну, ад чаго тая згубіла прытомнасць і спаўзла на пол. Калі яе выпусцілі, яна звярнулася да доктара, які зафіксаваў у Кацярыны сатрасенне мазгоў. Яна праз адваката накіравала на Новікава скаргу, і той у бліжэйшы час мусіць адказваць за сваё злачынства.

Глыбока ўначы непаўналетніх і некаторых дарослых адпусцілі. А пад раніцу шаснаццаць затрыманых даставілі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік па вуліцы Акрэсціна, дзе ім выпадала правесці бліжэйшыя трое-чацвёра сутак з-за надыходзячых святаў. Сярод арыштантаў было і трое жанчын: студэнткі Дар'я Радкевіч і Ірына Тоўсцік, а таксама пенсіянерка Святлана Данілава. Улады вырашылі правесці выпрабаванне «зуброў» на моц.

З панядзелка каля сценаў спецпрыёмніка свабодныя «зубры» правялі шэраг акцыяў у падтрымку сваіх зняволеных. Спачатку санітар прывёў яшчэ аднаго вусатага чалавека, і той пачаў крычаць: «Я настаяшчы прэзідэнт! Меняйце мяне на ненастаяшчых, што сядзяць зараз!» Калі на даляглядзе замаячылі міліцэйскія патрулі, «вусаты» збег. Затым яшчэ тры разы на працягу двух дзён невядомыя аднекуль крычалі ў мегафон: «Зубры! Трымайцеся! Мы чакаем вас! Мы верым у вас! Мы памятаем аб вас!..»

А ў сераду пачаліся суды. Спачатку ў Партызанскім судзе разглядаліся справы тых, хто быў адпушчаны і прыйшоў па позве, а затым пад гучны роў натоўпу (дзесьці сто «зуброў» прыйшлі пад сцены падтрымаць сваіх) пачалі па адным выводзіць з «аўтазака» тых, хто знаходзіўся за кратамі. Стомленыя турмой людзі прыветна махалі рукой сваім ды ўсміхаліся.

Дзякуй Богу, у суддзяў, нягледзячы на абсурднасць прысуду, хапіла сумлення нікога не вяртаць за краты. Максімальна жорсткія прысуды былі па трое сутак адміністратыўнага арышту, што раўнялася раней адседжанаму.

Пасля ўсе «зубры» пайшлі дадому памыцца ды пад'есці, а ўвечары разам адзначалі свой першы «дзень Волі», бо большасць з затрыманых сядзелі за кратамі першы раз у жыцці.

Спіс асуджаных за народныя гулянні ў Дзень псіхічнага здароўя:

*Тоўсцік Ірына – трое сутак арышту*

*Раткевіч Дар'я – трое сутак арышту*

*Драздоў Уладзімір — трое сутак арышту*

*Ахадаў Намік — трое сутак арышту*

*Канстанцінаў Андрэй — трое сутак арышту*

*Сцешык Яраслаў – трое сутак арышту*

*Карповіч Раман – трое сутак арышту*

*Боган Аляксандр – трое сутак арышту*

**Арцюшкевіч Дзяніс – штраф у памеры 20 мін. заробкаў**

**Сяляўка Антон – штраф у памеры 20 мін. заробкаў**

*Садоўскі Пятро – папярэджанне*

**Бурая Вольга – папярэджанне**

**Чэрнік Наста – папярэджанне**

**Кучко Таццяна – папярэджанне**

**Апраніч Алесь – папярэджанне**

*Фідэльман Кірыл — папярэджанне*

*Струй Віталь — папярэджанне*

**Шабан Кацярына — папярэджанне**

**Іваненка Зьміцер — папярэджанне**

*Данілава Святлана — папярэджанне*

**Паўлючэнка Ірына — папярэджанне**

*Крыўко Андрэй — папярэджанне*

**Марозава Таццяна — папярэджанне**

*П'яных Сяргей — суд перанесены на 3.05.01 на 10.00*

*Жэрбін Валеры – суд перанесены на 7.05.01*

*Афнагель Яўген – суд перанесены на 7.05.01 на 11.00*

(Курсівам выдзеленыя асобы, якія знаходзіліся з вечара суботы па вечар серады за кратамі спецпрыёмніка-размеркавальніка на вуліцы Акрэсціна).

**Віктар СЕВЕРЦАЎ, Уладзімір ШЛАПАК (фота)**


















Тры ніжнія здымкі адлюстроўваюць затрыманні ўдзельнікаў свята АМАПаўцамі, міліцыяй і невядомымі людзьмі ў цывільнай вопратцы (можна думаць — службоўцы КДБ, а можна — хуліганы)

ЭКАЛОГІЯ

## Бушу жаль терять деньги



Представители партий и движений «зеленых» из 70 стран мира высказались в Австралии за бойкотирование некоторых транснациональных нефтяных компаний в ответ на решение президента США не ратифицировать «Киотский протокол». Руководитель Австралийской партии «зеленых» Боб Браун по завершении встречи заявил, что бойкот будет объявлен против тех компаний, которые внесли финансовые пожертвования в предвыборную кампанию Джорджа Буша-младшего. По мнению Б.Брауна, именно эти корпорации оказали влияние на президента США, с тем чтобы он не ратифицировал «Киотский протокол». Среди таких компаний лидер австралийских экологов назвал корпорацию «Экссон».

Заместитель премьер-министра Великобритании, министр охраны окружающей среды, транспорта и регионов Джон Прескотт также пытается убедить администрацию президента Джорджа Буша ратифицировать «Киотский протокол». Как известно, президент Дж.Буш объявил в марте, что США не поддержат «Киотский протокол», подписанный в Японии в 1997 году, поскольку его соблюдение потребовало бы от страны больших финансовых усилий. По данным лондонской газеты «Таймс», часть министров нынешнего британского правительства во главе с Дж.Прескоттом оказывают давление на премьера Тони Блэра, с тем чтобы он занял более жесткую позицию в отношении администрации США по этому вопросу.

Глава переговорного процесса ООН по проблеме климатических изменений Ян Пронк (министр охраны окружающей среды Нидерландов) обратился с просьбой к администрации США пересмотреть решение об отказе ратифицировать «Киотский протокол». Представитель ООН призвал Вашингтон отказаться от своего одностороннего решения и достичь «возможного компромисса» на предстоящих в Бонне в июле переговорах. По словам Я.Пронка, «неучастие США в этой встрече вызвало бы негативные последствия. Это повредит американским интересам и интересам американских компаний», подчеркнул он. Администрация Джорджа Буша отказывается ратифицировать «Киотский протокол» и тем самым обязать компании США ограничить выбросы вредных газов в атмосферу. На долю США приходится около 25% всех вредных промышленных выбросов в атмосферу. Без решительных действий промышленно развитых стран по сокращению выбросов вредных газов в атмосферу их объем в ближайшие 20 лет увеличится на треть.

В этом документе речь идет прежде всего об углекислом газе, который вызывает парниковый эффект. При сохранении нынешнего уровня выбросов этого газа угроза заметного изменения климата наступит во всем мире уже в течение ближайших 10 лет.

Для борьбы с этим явлением эксперты ОЭСР предлагают отказаться от субсидирования тех предприятий, которые не соблюдают правила защиты окружающей среды, и ввести налог на использование нефти и химических продуктов. Все это позволит развитым странам сократить выбросы на 15% в течение 20 лет, причем бюджетные расходы на эту цель составят менее 1%.

**Ирина ВЕСЕЛОВСКАЯ**

# США и КНР в тисках антагонизма

## *Драматический конфликт в небе отразил застарелый политический конфликт правительств*

**Орвилл ШЕЛЛ, ведущий специалист по Китаю, Калифорния**

*Хотя мы до сих пор не знаем причины того, почему состязавшиеся самолеты Китая и Америки, а вместе с ними и китайско-американские отношения, вошли в пике, но это не удерживает оппонентов от лавины обвинений и бескомпромиссных требований извинений. В то время как ответ на вопрос о том, что собственно произошло, остается туманным, требует внимания более важный вопрос — почему подобные случаи всегда раздуваются до размеров кризиса, постоянно удерживая отношения между Китаем и США в напряженном состоянии?*

У этих государств — долгая и запутанная история отношений. США появились на китайской сцене в 19-м веке во вспышке своего «манифеста судьбы» — торговать и спасать душу Китая, в 20-м веке последовала миссионерская попытка спасти Китай от безбожного коммунизма. Но к американской моральной и экономической озабоченности были в большой степени примешаны снисходительность и невежество, которые проявились вследствие восприятия Китая как бедной страны, нуждающейся в спасении. Для такого некогда могущественного Китая было невозможно принять подобное обязывающее положение, и это привело к зарождению глубокого презрения.

Путешествие по городам Китая сегодня в основном создает обманное впечатление. Да, Китай вступил в глобальный рынок и может похвастаться многими достижениями модернизирующегося общества. Однако многие из этих эмблем современности и космополитизма скрывают шрамы «культурной революции».

Сегодняшнее правительство Китая пришло к власти вследствие тектонической революции, вдохновленной антиимпериализмом, антиколониализмом и антикапитализмом. Эти настроения рождались на протяжении целого столетия атаки Запада на Китай, начиная с первой Опиумной Войны (1839-1842), когда Британия захватила Гонконг как колонию, а потом продвинулась вверх по побережью Китая на военных кораблях, силой открывая «порты договора» один за другим.

На протяжении следующего столетия Китай стал лоскутным одеялом особых иностранных концессий, сфер экономического влияния и миссионерских анклавов, которые сделали эту страну «нарезанной как дыню», выражаясь языком того времени.

Но только после вовлечения США в китайскую гражданскую войну на стороне националистов Чан Кай-ши в конце 1940-х и в Корейскую войну — в 1950-х Америка стала полностью приравниваться китайскими коммунистами к главной «враждебной иностранной силе». Даже в середине 70-х, когда во время культурной революции я впервые поехал в Китай, практически на всех общественных местах висели слоганы «Кончать с американским империализмом и его собаками».






Даже хотя китайцы и чувствуют себя оскорбленными иностранным вмешательством и доминацией, многие восхищаются Америкой за ее демократию, открытость, энергию и желание оказать помощь. Это двойственное отношение привело к тому, что Китай реагирует страстно и непредсказуемо, когда бывает затронута его гордость. Ничто так не внушает отвращение новым китайским националистам, как идея слабого и несчастного Китая, подвергнутого иностранной эксплуатации.

Именно из этого полярного отношения Китая к Америке родилась столь эмоциональная реакция на воздушное крушение возле Хайнанских островов. Китай продолжает реагировать на окружающий мир, как если бы он все еще сражался с неумолимыми империалистическими противниками. Не будет преувеличением описать сегодняшнюю реакцию Китая на подобные инциденты как автоматическую. Поскольку, если у революции Мао и была движущая сила, которая до сих пор играет роль, так это приверженность идее о том, что Китай никогда не позволит себе предстать слабым и беззащитным перед иностранным вторжением.

Каким бы ни был исход Хайнанского происшествия, Китай и США будут продолжать свои диспуты. Америке предстоит преодолеть менталитет «холодной войны», Китаю — свое прошлое во имя своих сегодняшних национальных интересов. Чтобы этого достигнуть, Китаю необходимо перестать бередить старые раны и вместо требования извинений с позиции ущемленного искать новый, равный статус, который весь мир, включая Америку, готов принять.

**© Project Syndicate, апрель 2001**

СПОРТ

# Чэхі, швейцарцы, немцы... Хто далей?

*Заўтра, у суботу, сустрэчай з мацнейшай зборнай планеты – камандай Чэхіі – прыме старт у чэмпіянаце свету па хакеі, які пройдзе ў Германіі, нацыянальная зборная Беларусі. Праз два дні яна сустрэнецца з хакеістамі Швейцарыі і 2 траўня выйдзе на лёд супраць гаспадароў – немецкіх спартсменаў.*

Хто стане супернікам нашай дружыны далей, ужо ў чвэрцьфінале, невядома. Каб трапіць у серыю плэй-оф, яны павінны спачатку паспяхова прайсці папярэдні турнір сярод названых камандаў, а гэта значыць заняць вынікове месца ў ім не ніжэй другога. Іншы вынік «апускае» беларусаў у групу, дзе больш, чым спадзяваца на дзевятае месца не прыйдзецца. Акрамя таго, менавіта ў гэтай суцяшальнай групе вызначыцца аўтсайдэр, які пакіне вышэйшы клас.

Але ні галоўны трэнер зборнай Анатоль Варывончык, ні самі хакеісты такі расклад нават і не разглядаюць. А калі б правесці «спартыўнае» апытанне сярод насельніцтва, дык і тут большая частка прагаласуе за першы варыянт. Яно і зразумела: апошні час беларуская каманда паспяхова вырашала пытанне аб пападанні ў актэт мацнейшых. На жаль, прабіцца далей яна так ніколі і не змагла, не гаворачы ўжо пра медалі, але цвёрда «застолбіла» за сабой, як чамусьці ўсім здаецца, гэты ганаровы восьмы радок.

На мой погляд, старт у сусветным першынстве будзе для нас сёлета вельмі складаным. Гульня з мінулагоднімі пераможцамі ў першым матчы – самае сур'ёзнае выпрабаванне для кожнай зборнай свету, нават, вышэйшай па класе, чым беларуская. Тут, як кажуць, «лавіць» нам няма чаго. У апошніх гады сур'ёзная намеры дэманструе маладая і амбіцыёзная каманда Швейцарыі. І нягледзячы на тое, што яе будучыя поспехі наперадзе, аб'ектыўна яна ў Германіі будзе выглядаць больш перспектыўнай, чым калектыў, вядомы Варывончыкам. У сустрэчы з гаспадарамі сусветнага форума – немцамі – напрыканцы групавога турніру ўсё вырашаць нервы і... турнірнае становішча камандаў. Але фактар свайго поля, ва ўсіх адносінах, заўсёды гуляе перш за ўсё на саперніка. Так павялося.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Трэнерскі штаб хакейнай зборной. На што ён спадзяецца зараз?

Калі гэтыя экзерсісы, напісаныя вышэй, можна лічыць суб'ектыўнымі, дык надалей звернемся да аб'ектыўных паказчыкаў. Наша каманда будзе ледзь не самай сталай па ўзросце гульцоў на чэмпіянаце. І з кожным сезонам, нягледзячы на тое, што асноўны склад не спазнаў значных зменаў, узровень гульні ўсё ж падае. А прытоку свежых сілаў няма. І вяршыняй была, на мой погляд, зімовая Алімпіяда ў Нагана, дзе Беларусь згуляла лепей і выразней, чым у астатніх турнірах. З цягам часу выхад у фінальную частку любых спаборніцтваў даецца хакеістам усё цяжэй. Гады бяруць сваё.

Шэсць трэніровачных матчаў правялі беларускія спартсмены напярэдадні чэмпіянату: пяць перамогаў і толькі адна параза, праўда, у апошняй гульні ў Рызе супраць каманды Латвіі – 1:3.

Вынік гэты можна разглядаць па-рознаму. Галоўная выснова: зборная не сустракалася з саперснікамі з «эліты», і гэты трэнінг з тымі ж латышамі, аўстрыйцамі ды клубам «сярэдняй рукі» з Расіі не павінен узмацніць гульню. Можа трэнерскі штаб разважае па-іншаму, але гульнявой практыкі заяўна не хапае. У апошні тыдзень вызначыўся і склад каманды. На жаль, самая «аўтарытэтная» наша надзея – форвард Уладзімір Цыплакоў з клуба НХЛ «Бафала Сэйбрз» нічым не зможа дапамагчы «чырвона-зялёным» у Германіі. «Бафала» прайшло «Філадэльфію» і выйшла ў наступны этап розыгрышу Кубка Стэнлі. Суцяшае толькі той факт, што па гэтай прычыне страціла сваю «суперзорку» галкіпера Даміника Гашака і каманда Чэхіі. І гэта была не адзіная страта нашага першага візаві, таму што, калі акрамя Цыплакова гуляе ў НХЛ з нашых толькі Руслан Салей, дык чэхі могуць скласці са «сваіх» за акіянам не адну зборную. Тут нам пашанцавала.

Абаронца «Анахайма» Салей, клуб якога не трапіў у «алімпійку» Кубка Стэнлі, прыехаў у Мінск і надзене форму зборнай. Але здарылася так, што са сваімі паплечнікамі ён апошні раз згуляў афіцыйны матч... год таму, на мінулым чэмпіянаце ў Расіі. У якой форме знаходзіцца наш другі энхаэлавец, ніхто не ведае.

Памятаю, як напярэдадні сусветнага першынства ў Маскве і Санкт-Пецярбургу Беларускае тэлебачанне звярнулася да ўсіх з заявай дапамагчы знайсці грошы, тысяч каля 150 долараў, каб арганізаваць тэлетрансляцыі.

На гэты раз такой просьбы не было, і прамы эфір усіх трох стартавых матчаў стаіць у праграме БТ. Можа сапраўды адзінае «тэлевока» краіны такое зараз багатае, а можа аплата трансляцыяў – толькі невялічкая частка з фонду, які зараз выдзелены хакеістам. Чаму не? Гавораць, што толькі за пападанне зборнай у тую ж «восьмёрку» мацнейшых, кожны з каманды набудзе прэмію ў 40 тысяч долараў. Роўна столькі атрымалі ад дзяржавы беларускія алімпійцы, якія заваявалі срэбраны медаль у Сіднеі. І з кожным разам гэтыя грошыкі даюцца ўсё ж цяжэй. «Старыя» хакеісты пацюху сыходзяць, а новых зорак лядовыя палацы нарадзіць яшчэ не паспелі!

Усе мы будзем чакаць добрых вестак з чэмпіянату, як бы неспакойна нам перад стартам ні было.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1704 Нумар падпісаны ў друк 26/04/2001 (15:00) Наклад – 9.820